На простор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 208 (790)**

Серада, 10 лістапада 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і кромах — 25000 руб.,
па подпісцы — 18000 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Слышали?**

## Сергей Гайдукевич поедет в Стамбул с твердой позицией

На заседании Высшего совета Либерально-демократической партии рассмотрены основные тезисы выступления председателя ЛДП Сергея Васильевича Гайдукевича на Стамбульской встрече, организуемой Специальной рабочей группой Парламентской Ассамблеи ОБСЕ 18 ноября 1999 года. Высший совет утвердил основную позицию Либерально-демократической партии, заключающуюся в следующем.

Если в ближайшее время исполнительными структурами не будут выполнены следующие обещания, которые были даны Евросоюзу:

— освобождение политических заключенных;

— немедленное предоставление оппозиции доступа к средствам массовой информации,

то ЛДП не видит смысла участвовать в дальнейших переговорах с исполнительной властью и выходит из переговорного процесса, так как не собирается косвенно оказывать содействие существующему режиму.

Высшим советом поручено председателю ЛДП передать послание всем главам государств, которые примут участие в Стамбульской встрече.

В этом послании будет дан полный анализ внутриполитической обстановки в стране, а также положение дел в экономике государства.

**В.ГРОМИЛОВ, руководитель пресс-службы ЛДП.**

## Сітуацыя з расійскай нафтай будзе ўскладняцца

У кастрычніку бягучага года беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы (НПЗ) перапрацавалі 763 тысячы тон нафты, што склала 68 працэнтаў да адпаведнага паказчыку летась.

ВА "Нафтан", у прыватнасці, перапрацавала 80 працэнтаў да адпаведнага перыяду 1998 года, АТ "Мазырскі НПЗ" — толькі 48 працэнтаў. У якасці асноўнай прычыны скарачэння нафтаперапрацоўкі на Мазырскім НПЗ ва ўрадзе называюць рамонт установкі па перапрацоўцы нафты; сітуацыю на ВА "Нафтан" звязваюць са змяншэннем паставак нафты з Расіі.

Паводле ацэнкі незалежных экспертаў, скарачэнне на 32 працэнты паставак расійскай нафты ў Беларусь адбылося з-за дэфіцыту валютных сродкаў у дзяржаўнага канцэрна "Белнафтахім".

У лістападзе цана расійскай нафты для Беларусі чарговы раз павялічылася і складае 130—134 долары ЗША за тону, што на 20—24 долара ЗША больш, чым у кастрычніку гэтага года. Для закупкі нафты "Белнафтахіму" штомесяц неабходна канверсаваць 60 мільёнаў долараў ЗША, аднак рэальна ён можа канверсаваць не больш за 20 мільёнаў.

Паводле прагнозаў экспертаў, з кожным наступным месяцам сітуацыя з набыццём расійскай нафты будзе ўскладняцца. Няпростае становішча узмацняецца недахопам у дзяржавы валюты на закупку збожжа.

**Яўген ГРУБІЧ.**

## Суд Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці працягвае адстойваць правы грамадзян

Суд Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці працягвае абарону інтарэсаў простых грамадзян.

Як раней паведамляў БелаПАН, у ліпені гэтага года Буда-Кашалёўскі суд прыняў рашэнне, згодна з якім міжрайбаза Белкаапсаюза павінна была выплаціць 216 мільёнаў рублёў Людміле Меранковай. У 1993 годзе ў гэтай жанчыны і яшчэ каля ста чалавек прадпрыемства ўзяла пад 300 працэнтаў гадавых розныя сумы грошай — каля 10 тысяч рублёў з кожнага. На той момант гэта была сярэдняя гадавая зарплата супрацоўніка Буда-Кашалёўскай міжрайбазы, дзе і працавала Л.Меранкова. Уклад быў да запатрабавання, але калі летась Л.Меранкова запатрабавала вярнуць ёй грошы, база выслала на яе імя паштовым пераводам 4 тысячы 200 рублёў. Падманутая ўкладчыца падала ў суд, які вынес рашэнне на яе карысць. Аднак абласны суд, разгледзеўшы касацыйную скаргу адказчыкаў, адмяніў рашэнне і накіраваў справу на новы разгляд у той жа раённы суд.

Суддзя Іван Нічыпарук прызначыў незалежную фінансавую экспертызу мэтавага выкарыстання пазыковых сродкаў. Паводле ягонага меркавання, якое пацвярджаюць балансы прадпрыемства, грошы не былі скарыстаныя на развіццё базы, як абвяшчалася ўкладчыкам, а выкарыстоўваліся на іншыя мэты. Цяпер, калі з меркаваннем суддзі І.Нічыпарука згадзілася экспертыза, можна будзе весці размову пра ўзбуджэнне крымінальнай справы, а не толькі пра кампенсацыю ўкладчыкам унесеных імі грошай з улікам інфляцыі за шэсць гадоў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## "Хартыя'97" абвяргае заяву А.Лукашэнкі аб тым, што Т.Віннікава, Ю.Захаранка і В.Ганчар знаходзяцца за мяжой

Беларуская грамадская ініцыятыва "Хартыя'97" распаўсюдзіла паведамленне, якое датычыцца лёсу трох бясследна зніклых грамадзян Беларусі, — экс-старшыні Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай, экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі і першага віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара.

Падставай для гэтага паведамлення стала заява, якую зрабіў А.Лукашэнка 30 кастрычніка, падчас сваёй сустрэчы з кіраўніком рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыянам Севярынам.

Кіраўнік беларускай дзяржавы, у прыватнасці, заявіў, што, паводле звестак беларускіх улад, Юрый Захаранка зараз знаходзіцца ва Украіне, Віктар Ганчар — у Расіі, а Тамара Віннікава — на Захадзе. Пра гэта гаворыцца і ў справаздачы аб сустрэчы з А.Лукашэнкам, якая была распаўсюджана ў мінулыя выхадныя ў Вене прадстаўнікамі Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі.

У паведамленні "Хартыі'97" гаворыцца аб тым, што дагэтуль нічога невядома пра лёс гэтых зніклых грамадзян. З моманту знікнення Тамары Віннікавай з-пад хатняга арышту прайшло сем месяцаў; паводле афіцыйных даных, ніхто з супрацоўнікаў спецслужбаў пакарання за праяўленую халатнасць па ахове Т.Віннікавай не панёс. Юрый Захаранка таксама знаходзіўся пад кругласутачным вонкавымназіраннем спецслужбаў. 7 траўня бягучага года сачэнне за ім было раптоўна знята, а праз дзве гадзіны генерал Ю.Захаранка быў выкрадзены. Нягледзячы на тое, што з таго часу прайшло паўгода, ніякіх захадаў па расследаванні не прадпрымаецца. І, нарэшце, адзначаецца ў паведамленні "Хартыі'97", нічога невядома пра лёс Віктара Ганчара, які быў выкрадзены разам з вядомым прадпрымальнікам Анатолем Красоўскім амаль два месяцы таму, 16 верасня, у выніку разбойнага нападу.

**БелаПАН.**

**Постфактум**

## Здравиц в честь Лукашенко и призывов к объединению с Россией в столице Беларуси в годовщину Октября не звучало

Совпадение в этом году даты 7 ноября с выходным днем, хотя математически и закономерно, однако с точки зрения бытовой психологии — случайность. А вот в политике случайностей не бывает. Об этом еще раз напомнил телезрителям в аналитической программе нынешнего режима его глашатай Александр Зимовский. По его словам, 7 ноября на Беларуси было не более чем обычным выходным днем. И действительно, собравшиеся на Октябрьской площади Минска не увидели не только исполняющего обязанности главы государства, но даже столичного градоначальника — организовывал демонстрацию один из чиновников горисполкома.

30 тысяч человек, по словам А.Зимовского, участвовали в демонстрации — примерно столько же, сколько и три недели назад в "Марше свободы". С той лишь разницей, что 17 октября на улицы столицы вышли только противники нынешнего режима, а 7 ноября в рядах демонстрантов были и те, и другие. И по моим впечатлениям, большинство участников демонстрации не были лояльны к главе нынешнего режима. Пропустив мимо себя всю демонстрацию, портреты Александра Лукашенко я увидел лишь в рядах чикинских структур КПБ и ДСПС, а также в некоторых районных группах пропрезидентской молодежной организации БПСМ. Все остальные участники шествия нести образа нынешнего правителя не посчитали для себя возможным.

Удивило другое. Социологи утверждают, что на Беларуси количество респондентов, выступающих "за" и "против" объединения с Россией, примерно одинаковое — в пределах 30 процентов. Однако 7 ноября 1999 года я не увидел этих самых 30 процентов: 2—3 транспаранта на тему объединения были лишь в рядах структур Виктора Чикина. А ведь это — ничтожное диванное меньшинство, и только в Минске.

Как видно из воскресного "Рэзананса", чикинцы оказались неспособными организовать демонстрации даже в областных городах — шествия в них проводились под знаменами партии Калякина.

Но главное событие 7 ноября 1999 года проходило в самой последней колонне — Партии коммунистов и представителей рабочих коллективов. Об этом свидетельствовал и транспарант, предваряющий эту колонну: "Марш трудового народа". Правда, количество участников этого марша было в пределах двух сотен, но, по заявлению Сергея Антончика, в настоящее время готовится многотысячная манифестация рабочего класса, условия жизни которого за последние пять лет стали невыносимыми.

Но именно выхода на улицы рабочего класса и опасаются власти более всего. И есть чего. Ведь в 82-ю годовщину Октябрьской революции ни одна партия не вышла в столице на демонстрацию с лозунгами протеста. На это оказался способен лишь рабочий класс. Именно в ряды рабочих ворвались десятки сотрудников белорусских спецслужб в кожаных куртках, вырывая из рук плакаты:

— "Кухарка, зачем ты доверила власть конюху?";

— "Да здравствует Великий Октябрь — долой диктатуру!";

— "Слава Октябрьской революции — долой лукавого царя!".

Что ж, с двумястами рабочими так поступить можно. Но вряд ли это удастся повторить, когда на улицы выйдут уже десятки тысяч пролетариев.

**Валерий ЩУКИН.**

## На камуністычны мітынг Алеся Ясюк прыйшла з бел-чырвона-белым сцягам

7 лістапада персанальную акцыю пратэсту супраць існуючага рэжыму правяла сябра барысаўскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Алеся Ясюк. Падчас афіцыйнага мітынгу, арганізаванага гарадскімі ўладамі з нагоды чарговай гадавіны кастрычніцкага перавароту ў Расіі, спадарыня Ясюк увайшла ў натоўп перад трыбунай з бел-чырвона-белым сцягам. Сцяг быў абвязаны дзвюма чорнымі жалобнымі стужкамі.

Алеся Ясюк не паспела пратрымацца і дзвюх хвілінак, як была схоплена міліцыянтамі. Разам з ёй быў схоплены і старшыня барысаўскай арганізацыі БСДП (НГ) Алесь Абрамовіч, які з пасведчаннем сябра Беларускай арганізацыі журналістаў фатаграфаваў дзеянні Алесі Ясюк. Затрыманых а дзесятай гадзіне раніцы завезлі ў міліцэйскі пастарунак.

У міліцыі Абрамовіча пратрымалі тры гадзіны, а Ясюк — чатыры гадзіны. На апошнюю быў складзены пратакол аб правапарушэнні па артыкуле 167 ч. 2 КоАП РБ "Парушэнне парадку правядзення масавых грамадскіх акцый". Падчас знаходжання ў міліцыі Абрамовіч і Ясюк былі дапытаны па крымінальнай справе, заведзенай барысаўскай міліцыяй па артыкуле 201 ч. 2 "Злоснае хуліганства" Крымінальнага кодэкса РБ. Як растлумачыў следчы — лейтэнант міліцыі М.В.Лімонаў, які праводзіў допыт, у ноч з 6 на 7 лістапада ўвесь Барысаў быў размаляваны антыпрэзідэнцкімі лозунгамі.

У адпаведнасці з рашэннем барысаўскай арганізацыі БСДП (НГ) ад 8 жніўня 1999 года аб аб'яўленні сябрамі арганізацыі грамадзянскага непадпарадкавання рэжыму Лукашэнкі Абрамовіч і Ясюк адмовіліся даваць якія-небудзь паказанні, хоць на гэтым настойвала следчая брыгада з упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама ў складзе трох чалавек.

**Алесь АБРАМОВІЧ, старшыня барысаўскай арганізацыі БСДП (НГ).**

**Ну и ну!**

## Как коммунистов не пускали во Дворец республики

Факс, поступивший на днях в "Народную волю", обернулся для меня срочным редакционным заданием. Произошло неординарное на просторах СНГ событие: в самой "прокоммунистической" стране, в которой одна из коммунистических партий (КПБ) является правящей, а партийный билет члена коммунистической партии хранится в сейфе служебного кабинета главы государства, коммунистам запретили проведение торжественного собрания, посвященного 82-й годовщине рождения первого в мире социалистического государства.

**Рассказывает секретарь Партии коммунистов Белорусской (ПКБ) Елена Скриган:**

— Подготовка собрания проходила в обычном порядке. Получили согласие руководства дворца, своевременно внесли 72 миллиона рублей за 40 минут пользования залом. 4 ноября в 11 часов подготовили фойе, зал, сцену. Но в 12 часов позвонили из дворца и сообщили, что торжественное собрание отменяется — проведение мероприятия запретили пожарники.

У Дворца республики собственная пожарная служба. Электропроводка и система пожаротушения — совершенно новые, только-только приняты в эксплуатацию. И когда первый секретарь ЦК ПКБ Сергей Калякин обратился к пожарникам, то услышал в ответ, что пожарная безопасность обеспечивается и что о своем запрете они впервые узнают из уст самого Калякина.

Тогда администрация дворца срочно стала искать другие причины и заявила, что такое указание поступило свыше. По партийным каналам выяснили: распоряжение "не пущать" поступило от В.Заметалина — главного идеолога "прокоммунистического" президента. Владимир Петрович, отвечая коммунистам, версию эту не только отверг, а заявил, что на запрос руководителя дворца о допустимости проведения данного мероприятия ответил утвердительно. (Оказывается, в Беларуси снять зал для проведения какого-либо мероприятия без санкции приближенных к главе государства нельзя. — **Авт.**)

Сергей Калякин вернулся во дворец и вновь получил отказ. Теперь уже торжественное собрание запретил главный инженер по... техническим причинам. Телефонные переговоры с различными государственными структурами пошли по второму кругу. Лишь к 16 часам, после распространения ЦК ПКБ информации о неправомерном запрете в средствах массовой информации, ОБСЕ, правозащитных организациях, телевизионных компаниях России — то есть перед лицом неизбежного международного скандала, разрешение на проведение торжественного собрания было получено.

Почему же властные структуры испугались такого весьма безобидного в общем-то мероприятия, как торжественное собрание. Дело, видимо, в тех фактах и оценках, которые давались в праздничном докладе. Текст доклада был уже набран в очередном номере газеты "Товарищ" и, следовательно, т.Заметалин к началу вышеуказанных событий ознакомился с ним. А оценки в докладе весьма нелицеприятны для нынешних властей. Судите сами.

**Из доклада секретаря ЦК ПКБ Елены Скриган на торжественном собрании об итогах пятилетнего правления страной Александра Лукашенко:**

*— окружение Лукашенко организовало бизнес на получении взяток с людей, которым они предоставляют право доступа к главе государства;*

*— ветеранов труда и Вооруженных сил, ликвидаторов чернобыльской аварии, сельских учителей и врачей лишили льгот по оплате коммунальных услуг;*

*— увеличен на пять лет срок службы военнослужащим и сотрудникам органов внутренних дел;*

*— Беларусь находится в международной изоляции, отсутствуют должные контакты даже с ближайшими соседями;*

*— из года в год снижается товарооборот с другими странами. В том числе — на 30 процентов с Россией, об объединении с которой ведется постоянная политическая трескотня;*

*— непрерывно падает производство сельскохозяйственной продукции;*

*— растет количество убыточных предприятий...*

Да, по всей видимости, не миновать Владимиру Заметалину нагоняя за такие столь крамольные речи в стенах Дворца республики.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Не здадзімся!**

## "Прэч маскоўскую арду! Мірон"

**Раніцай 8 лістапада над помнікам Уладзіміру Караткевічу ў Віцебску, прычэплены да лініі электраперадачы, прыгожа развяваўся бел-чырвона-белы сцяг. Да яго была прымацавана цыдулка: "Прэч маскоўскую арду! Мірон".**

Такім чынам славуты беларускі патрыёт, які з'яўляецца сябрам Рады "Выбар" КХП БНФ, адзначыў дзень камунабальшавіцкага перавароту 1917 г. у Расійскай імперыі.

Калісьці Ул.Караткевіч сказаў, маючы на ўвазе беларуса: "Быў. Ёсць. Буду". Здаецца, што Мірон пацвердзіў слушнасць гэтых слоў, пакінутых рукой дойліда на помніку.

**Юрась КАРПАЎ.**

## Улады Маладзечна забаранілі правядзенне маладзёжнага музычнага фэсту

Улады Маладзечна забаранілі правядзенне 13—14 лістапада другога маладзёжнага музычнага фэсту "Рок-немаўля-99" з удзелам пачынаючых рок-гуртоў. Яго ладзіў маладзёжны клуб "Грунвальд" Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

У афіцыйнай адмове, падпісанай старшынёй маладзечанскага гарвыканкама Станіславам Татарыновічам, гаворыцца, што Маладзечна даўно "выбраў свой накірунак у правядзенні фэстаў — гэта фэсты тэатральнага мастацтва і беларускай песні і паэзіі" і таму свята рок-музыкі не патрэбнае.

Аднак адзін з арганізатараў фэсту, кіраўнік клуба "Грунвальд" Сяргей Юркевіч лічыць, што мясцовыя ўлады проста баяцца такіх нефармальных мерапрыемстваў, асабліва пасля рок-канцэрта 27 жніўня ў Маладзечне, які закончыўся нематываванымі затрыманнямі некаторых ягоных ўдзельнікаў. "Улады ўспрынялі чыста культурную акцыю як палітычную і прынялі адпаведныя захады", — гаворыцца ў прэс-рэлізе маладзёжнага клуба "Грунвальд". Арганізатары рок-фэсту праз мясцовую прэсу звярнуліся да гараджан з заклікам правесці "тэлефонную акцыю" пратэсту супраць стаўлення мясцовых улад да маладзёжных нефармальных ініцыятыў — патэлефанаваць у гарвыканкам і выказаць ягонаму кіраўніцтву сваю нязгоду. Апрача таго, вядзецца збор подпісаў вядучых рок-музыкантаў Беларусі ў падтрымку гэтага фэсту.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**СамоЕДство**

## Лучше быть здоровым и сытым

И жить до ста лет. Или хотя бы до восьмидесяти, как, например, в Японии, где средняя продолжительность жизни 79,8 лет. Но это не с нашим счастьем. Что поделаешь, коль угораздило нас появиться на свет в Беларуси. В стране хронического экономического кризиса. Вот и живем в среднем до 68,6 лет. И занимаем последнее место по продолжительности жизни населения в списке двадцати европейских стран, Японии и США.

Наши соседи поляки, к слову, живут в среднем 71,8 лет, а бывшие братья по соцлагерю — чехи и словаки — 73. Средняя продолжительность жизни

| | |
|---|---|
| в Дании — | 75,3 |
| в США и Бельгии — | 75,7 |
| в Германии — | 76,1 |
| в Великобритании и Австрии — | 76,2 |
| в Италии — | 77,4 |
| во Франции — | 78,1 |
| в Швеции — | 78,3 |
| в Японии — | 79,8 |

Куда уж нам тягаться с японцами! Они каждый день едят овощи и рыбу, всякими морскими деликатесами себя балуют. А спросите у бабули из маленькой белорусской деревушки, что такое крабы или мидии? Она, перекрестившись, ответит, что такого "ругательства" сколько живет, не слышала. У белоруса свое представление о питании.

Если все то, что съедает и выпивает помимо алкогольных напитков белорус за год принять за 100 процентов, то вырисовывается совсем мрачная картина. Мы постоянно заставляем наш желудок переваривать дешевые молочные продукты и хлеб с картошкой. От общего числа употребляемой белорусом пищи эти продукты составляют 43, 15 и 13 процентов соответственно. Мяса и рыбы едим ничтожно мало: всего-то 7 и 2(!) процента! К слову, американец съедает за год 115 киллограммов мяса и прочих из него приготовленных копченых и полукопченых вкусностей, чех — 82 килограмма, поляк — 60, а белорус только 30,6 килограмма. Едим так мало ростбифов и отбивных не потому, что вегетарианцы, — овощи и фрукты мы тоже не часто себе позволяем, их процент от общего количества употребляемой за год пищи составляет 11 и 4 процента. Все дело в том, что многим не по карману мясо и мясопродукты. Попробуй "оторви" полтора миллиона на килограмм телятины или два с половиной на такое же количество сырокопченой колбасы, когда всего-то за месяц наработал с "легкой руки" нашего правительства 20—25 миллионов.

Плохо питаясь, белорусы не дополучают нужного количества витаминов и других необходимых микроэлементов, и оттого часто болеют. Более чем в 10 раз в стране увеличилось количество больных гастритом. С каждым годом растет число онкологических больных. В 1990 году в Беларуси из 100 тысяч взрослого населения раком болело 265 человек, а в прошлом эта цифра перешагнула трехсотый рубеж. В том же 1990 году медики с ужасом фиксировали статистику по заболеваемости туберкулезом. Тогда в стране 30 человек из 100 тысяч были больны чахоткой, и эти показатели настораживали. Однако черная кривая роста заболеваемости безжалостно поползла вверх, и сегодня в Беларуси официально объявлено об эпидемии туберкулеза... В некоторых районах нашей страны этой напастью больны 180 человек из 100 тысяч, а средний показатель по стране — почти 55. В прошлом месяце власти приняли специальную правительственную программу по борьбе с туберкулезом, рассчитанную до 2002 года.

За последние девять лет у населения Беларуси наблюдается рост железодефицитной анемии и увеличение количества людей, страдающих болезнями сердца и системы кровообращения.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**Задумаемся**

## А был ли юбилей?

Чем может похвастаться за последний год-два Пинск — так это юбилеями. На них пошла своеобразная мода. В основном 30 и 60-летия со дня образования широко, с размахом празднуют заводы, тресты, отдельно взятые ПМК и колхозы, торговая база. Причем каждый коллектив старается по пышности торжества не отстать от другого: чтобы и сценарий торжественной части получился интересным, да и банкет с выпивкой и закуской удался. Словом, гуляет народ, отвлекаясь тем самым от грустных дум и постоянно ухудшающегося материального благосостояния своих семей.

Лично я ничего не имею против таких вот праздников. Веселятся люди, ну и на здоровье! Однако порой торжества отдельных коллективов ставят под сомнение правильность указанных юбилейных дат, более того, заставляют усомниться в знании истории руководителями этих коллективов.

Вот конкретный пример. Торжественно и чинно отпраздновал 60-летие со дня образования коллектив Пинского речного порта. Однако дата вызывает сомнение. Почему отсчет своей биографии пинские речники начинают с 1939 года? А, что до этого люди здесь не жили и суда не ходили? Отнюдь! Историю своей отрасли и организации можно бы знать и глубже. А история свидетельствует о том, что суда из Пинска в Варшаву начали ходить еще в 1784 году по водному судоходному каналу королевы Боны, соединяющему реки Пина и Муховец. Позднее суда, принадлежавшие Матеушу Бутримовичу, ходили в Кременчуг за солью, перевозили другие грузы. Почему же эти славные годы своих земляков пинские речники вычеркнули из биографии? Или они просто об не знают?

Все же справедливости ради следовало бы восстановить истину и уж коль праздновать, то уж никак не 60-летие, а скорей вековой юбилей. Иначе предки обидятся...

**Валентина НАВАРИЧ.**

## У Гомелі затрымалі трох апазіцыянераў

З трох гомельскіх апазіцыянераў, затрыманых міліцыяй 7 лістапада падчас правядзення ўрачыстасцяў з нагоды Дня Кастрычніцкай рэвалюцыі, пратакол быў складзены толькі на Галіну Арцёменка, сябра БНФ "Адраджэнне", намесніка старшыні гомельскай арганізацыі "Саюз абароны правоў чалавека". Ёй ставіцца ў віну парушэнне артыкула 166 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ, гэта значыць супраціўленне супрацоўнікам міліцыі пры выкананні службовых абавязкаў, аднак Г.Арцёменка адмовілася падпісаць пратакол.

Яшчэ двое затрыманых — Яўген Мурашка, член сойму БНФ і назіральнік ад БХК, і мясцовы анархіст Юрый Глушакоў — правялі ў пастарунку менш за тры гадзіны і былі адпушчаныя.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

## Дзяржкамдруку адмяніў сваё рашэнне ад 30 верасня аб адмене рэгістрацыйных пасведчанняў дзевяці друкаваных выданняў, сярод якіх была і газета "Наша свобода" (былыя "Навіны")

Дзяржаўны камітэт па друку адмяніў сваё рашэнне ад 30 верасня аб прызнанні несапраўднымі пасведчанняў аб рэгістрацыі дзевяці друкаваных выданняў. Пра гэта 8 лістапада на сустрэчы з журналістамі паведаміў старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны.

Нагадаем, што рэгістрацыйныя пасведчанні дзевяці друкаваных выданняў, у тым ліку — газеты "Наша свобода" (былыя "Навіны") былі адкліканыя ў сувязі з непрадастаўленнем імі ў Дзяржкамітэт дакументаў "аб узгадненні размяшчэння перыядычных выданняў з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі".

Паводле слоў М.Падгайнага, яшчэ ў пятніцу ён падпісаў загад, у адпаведнасці з якім адмяняецца дзеянне пункта першага загаду ад 30 верасня, які тычыўся адклікання рэгістрацыйных пасведчанняў.

Сваё рашэнне Дзяржкамдруку патлумачыў тым, што пасля выдання дадзенага дакумента ягоным ведамствам былі "дэталёвым чынам" правераныя ўсе перыядычныя выданні, і высветлілася, што падобныя парушэнні ёсць у 220 з іх. Для прывядзення дакументаў у адпаведнасць з заканадаўствам ім быў вызначаны тэрмін да 10 лістапада. Аднак, паводле слоў М.Падгайнага, калі камітэт стаў сам "прапрацоўваць" гэтае пытанне, высветлілася, што цяпер існуе шэраг супярэчнасцяў паміж Дэкрэтам кіраўніка дзяржавы №11 "Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання", Грамадзянскім кодэксам РБ і Законам "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". З гэтай нагоды зараз Дзяржкамітэт "дэталёвым чынам" рыхтуе дакумент аб парадку рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі. "Мы стараемся зрабіць максімальна спрошчаны парадак рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі з тым, каб такіх калізій больш не ўзнікала", — сказаў М.Падгайны.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

Пр. Неанілы, Праскоўі, Арсеня, Дзмітрыя Кір'яка, Максіма, Несцера, Сцяпана.
К. Андрэя, Любаміра, Лявона.

ЛІСТАПАД
**10**
'99 СЕРАДА

| ☉ | ● |
|---|---|
| Усход 7.28 | Маладзік 8 лістапада |
| Захад 16.20 | Усход 10.30 |
| Даўж. дня 8.52 | Захад 18.47 |

